№ 5 (1568)
Субота, 11 студзеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт свабодны.

# Народная Воля

### Надвор'е

Сёння ўдзень захаваецца пераменная воблачнасць, уначы па паўднёва-ўсходняй палавіне снег, удзень пераважна без ападкаў, на дарогах месцамі галалёдзіца. Вецер паўночны, 5—10 м/с. Тэмпература паветра ў Магілёве — -19...-21, Віцебску, Мінску — -18...-20, Брэсце — -17...-19, Гродне — -16...-18, Гомелі — -15...-17. У наступныя двое сутак воблачнае з праясненнямі надвор'е. 12-га пераважна без ападкаў, толькі ўдзень на паўночным захадзе снег, 13-га на большай частцы тэрыторыі снег, слабая мяцеліца. Вецер заходні і паўднёва-заходні, 6—11 м/с, 13-га парывы да 14 м/с. Рэзкае пахаладанне: 12-га ўначы -20...-25, месцамі да -30, удзень -8...-13, па ўсходзе да -16; 13-га ўначы -5...-10, удзень -1...-6, на поўдні ўначы -12...-17, удзень -4...-9.



**ПУЛЬС**

## Р.Фёдараў не мае намеру выстаўляцца



Прэзідэнт Беларускай федэрацыі футбола (БФФ) Рыгор Фёдараў не мае намеру выстаўляць сваю кандыдатуру на чарговых выбарах кіраўніка гэтай арганізацыі. Заяву аб гэтым ён напісаў на адрас удзельнікаў справаздачна-выбарчай канферэнцыі БФФ, якая пройдзе ўвесну альбо летам. Афіцыйная прычына — стан здароўя.

"Памыляецца той, хто думае, што я трымаюся за крэсла. Крэсла не галоўнае, найважней справа, — заявіў у інтэрв'ю БелаПАН Р.Фёдараў. — Я б не хацеў, каб спекулявалі вакол нашага футбола, каб з-за мяне прымалі нейкія негатыўныя рашэнні. Я не згодны з пэўнай пазіцыяй, стаўленнем, якія не толькі бесперспектыўныя, але і дзесьці разбуральныя. Ды й стаміўся я крыху ад гэтай непатрэбнай барацьбы".

Дату выбараў новага прэзідэнта БФФ мусяць вызначыць дэлегаты пазачарговай канферэнцыі федэрацыі, якая пройдзе ў красавіку з мэтай прыняцця новага статута арганізацыі.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

## Аксану Новікаву аштрафавалі

Пастановай адміністрацыйнай камісіі Фрунзенскага райвыканкама Мінска прыватны прадпрымальнік Аксана Новікава аштрафавана на 12 тысяч рублёў за распаўсюджванне матэрыялаў, у якіх яна заклікае Аляксандра Лукашэнку пайсці ў адстаўку.

7 кастрычніка мінулага года Новікава прыйшла ў Адміністрацыю прэзідэнта, каб перадаць Аляксандру Лукашэнку ліст, аднак не была дапушчана ў будынак. Пасля гэтага Новікава спрабавала перадаць свой зварот кіраўніку дзяржавы з дапамогай грамадзян, якія накіроўваліся ў гэты будынак, але была затрымана.

Нагадаем, што супраць Аксаны Новікавай таксама ўзбуджана і крымінальная справа. 17 кастрычніка пракуратура Цэнтральнага раёна Мінска ў дачыненні да прыватнага прадпрымальніка распачала крымінальную справу за распаўсюджванне антыпрэзідэнцкіх улётак на праспекце Скарыны.

Паводле слоў А.Новікавай, у найбліжэйшыя дні следчы Максім Падзярэй збіраецца перадаць гэтую справу ў суд.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Аварыя ў Гомелі

Днямі жыхары 86-кватэрнага шматпавярховага жылога дома ў Гомелі засталіся без цеплазабеспячэння.

Надзвычайнае здарэнне адбылося з-за перападаў электраэнергіі ў кацельні дрэваапрацоўчага камбіната, які знаходзіцца ў мікраёне Новабеліца абласнога цэнтра. Каля 11 гадзін раніцы пачалося самаадвольнае выключэнне-ўключэнне электрычных помпаў, з-за чаго адбыўся гідраўлічны ўдар, а ў ацяпляльнай сістэме шматпавярховага жылога дома па вуліцы Герцэна ўзнік рэзкі перапад ціску.

У выніку моцнага напору вада "ўдарыла" ў батарэі. У некаторых з кватэр адбыўся парыў сістэмы ацяплення і — вада вылілася ў жылыя памяшканні, іншым жыхарам пашанцавала крыху больш — батарэі вытрымалі, але раздуліся да непазнавальнасці.

Усю ноч у доме працавалі восем аварыйных брыгад, у склад якіх увайшлі прадстаўнікі камунальных службаў і гарадскіх цеплаcетак. Рабочыя дэманціравалі пашкоджаныя трубы ацяплення і мянялі дэфармаваныя батарэі. Нягледзячы на адключэнне цеплазабеспячэння, жыхары начавалі дома.

Да раніцы ў большасці кватэр рамонтныя работы ўдалося завяршыць.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## Знакі якасці Расіі прысвоены мінскаму трактару

Залатых узнагарод удастоены трактары "Беларус-1221" і "Беларус-1523", а трактар "Беларус-923" атрымаў залаты знак якасці. Такое рашэнне было прынята па выніках Маскоўскай выставы "Нацыянальная слава" і конкурсу "Усерасійская марка (3-е тысячагоддзе). Знак якасці". Атрыманыя на выставе рэгістрацыйныя нумары даюць права на выкарыстанне таварнага знака на працягу двух гадоў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Брэст прыцягне 10 мільёнаў долараў

Да 10 мільёнаў долараў ЗША інвестыцый можа быць прыцягнута ў Брэст падчас выканання ў 2003 годзе праграмы па развіцці турызму і адпаведнай інфраструктуры. Цяпер спецыялісты Брэсцкага аблвыканкама працуюць з шэрагам замежных фірм па пытанні будаўніцтва ў абласным цэнтры камфартабельных гатэляў, а таксама над завяршэннем будаўніцтва гатэля па вуліцы Савецкай. Ідзе пошук інвестараў для будаўніцтва ў Брэсце аквапарка.

Плануецца развіццё турыстычнай інфраструктуры і на тэрыторыі вобласці. Турыстычная галіна Брэстчыны валодае гатэлямі, якія ў асноўным аказваюць паслугі, што адпавядаюць узроўню 2 і 3-зоркавых гатэляў. У Кобрыне ёсць гатэль "Сувораў" на 50 месцаў, які адпавядае 4-м зоркам па сусветнай класіфікацыі. У гатэлях Брэста могуць размясціцца да 900 чалавек, у цэлым па вобласці — да 1.800.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

## Размер пенсий в Беларуси*

| Размер в долларах | Число пенсионеров, получающих данный вид пенсии | Доля от общего числа пенсионеров (в %) |
|---|---|---|
| До $13 | 10983 | 0,4 |
| От $13 до $19 | 18216 | 0,7 |
| От $19 до $26 | 85094 | 3,4 |
| От $26 до $32 | 191484 | 7,7 |
| От $32 до $39 | 278839 | 11,2 |
| От $39 до $45 | 281556 | 11,3 |
| От $45 до $52 | 369372 | 14,8 |
| От $52 до $58 | 301279 | 12 |
| От $58 до $65 | 467306 | 18,7 |
| От $65 до $71 | 278411 | 11,2 |
| От $71 до $77 | 87382 | 3,5 |
| От $77 до $84 | 41602 | 1,7 |
| От $84 до $90 | 19929 | 0,8 |
| До $32 ( $1 в день на человека — черта бедности по критериям ООН) | 305777 | 12,3 |
| До $58 ($2 в день на человека — черта бедности по критериям МВФ и Всемирного банка) | 1235544 | 49,6 |

*Кроме пенсионеров, служивших в Вооруженных силах, КГБ и МВД

*("Белорусские новости".)*

**СУД**

# Защита переходит в нападение

*Свыше двух месяцев продолжается процесс по делу члена Совета Республики Беларусь Виктора Рахманько. Сейчас идет допрос свидетелей по различным эпизодам дела. В первый день после Рождества со свидетельскими показаниями выступила жена Виктора Рахманько-Светлана. А в конце рабочего дня защита заявила сенсационное ходатайство — о приобщении к делу выводов экспертов Научно-исследовательского института криминологии, криминалистики и судебной экспертизы Министерства юстиции республики. Изучив материалы дела, эксперты сделали сенсационный вывод-Виктор Рахманько не виновен по наиболее значительным статьям обвинения. Приложение к ходатайству более чем на 600 страницах, где подробно анализируются статьи обвинения, защитники передали суду.*



Адвокаты утверждают, что ревизии на этапе следствия проводились с грубыми нарушениями требований Указа Президента Республики Беларусь № 673 от 15 ноября 1999 г. "Порядок организации и проведения проверок (ревизий) финансово-хозяйственной деятельности и применения экономических санкций", а выводы следователей о наличии материального ущерба несостоятельны. Акты же документальных ревизий по 10 из 14 эпизодам обвинения не имеют серьезной доказательной базы. Одновременно с актами ревизий в НИИ проблем криминологии, криминалистики и судебной экспертизы Минюста были представлены доказательства, собранные защитой по этим эпизодам обвинения.

Судебно-бухгалтерское исследование актов документальных ревизий, проведенное специалистами НИИ, подтвердило утверждение защиты о том, что следствие нарушило Указ Президента Беларуси №673. А потому, если исходить из заключений специалистов НИК, выводы следователей о вине не только самого Виктора Рахманько, но и тех, кто делит вместе с ним скамью подсудимых — руководителей Барановичского участка Белорусской железной дороги В.Некрашевича, А.Виноградова и председателя передового колхоза "Путь Ильича" В.Артемкова' совершенно несостоятельны.

Напомним, что прокуратура обвинила специалистов БелЖД и председателя колхоза в том, что к дачным домикам, расположенным, по существу, на колхозных землях ( в районе деревеньки Михновщина) была якобы незаконно протянута линия высоковольтной электропередачи и проложена асфальтированная дорога к воротам дачного поселка. Заведующий лабораторией судебно-экономических экспертиз НИИ криминологии опровергает эти обвинения и утверждает, что акт документальной ревизии финансово-хозяйственной деятельности Барановичской дистанции электроснабжения, составленный в мае минувшего года главным контролером-ревизором по Барановичскому району КРУ Минфина РБ Е. Прудниковой, был оформлен с нарушением Указа президента. Монтаж ЛЭП и КТП в июле 2001 года по устройству наружного освещения в деревне Михновщина материального ущерба не причинил.

Чрезвычайно интересный эпизод обвинения-пожар в выделенной сенатору даче в дачном комплексе "Крылово". Не успела семья Рахманько въехать в отремонтированную дачу, как буквально на следующий день она полыхнула. Камин в доме строители еще не доделали, но семье Рахманько об этом не сказали. Новоселы разожгли камин и — дом вспыхнул. Однако считать их виновниками пожара нельзя. Следствие же утверждает: пожар был организован специально, чтобы скрыть злоупотребления во время ремонта. Однако специалисты НИИ утверждают, что акт ревизии КРУ Минфина был составлен с нарушениями, ущерб железной дороге Рахманько не нанес. На самом деле виновники пожара-"Юнимакс Трейдинг" и "Кафран", фирмы, которые ремонтировали дачу и оставили неисправный камин. Эти фирмы, кстати говоря, уже восстановили сгоревшую дачу. Поэтому суд совершенно справедливо прекратил уголовное дело по этому эпизоду.

Адвокаты Виктора Рахманько, совместно с учеными НИИ криминалистики утверждают также, что Указ президента №673 дает основание полагать: состав преступления отсутствует и в других эпизодах "дела сенатора". Например, председателя колхоза "Путь Ленина" обвиняют в том, что он заасфальтировал чуть более 700 метров проселочной дороги к дачному домику Рахманько. Однако эксперты НИИ утверждают, что ущерб колхозу, о котором говорит обвинение, на самом деле отсутствует. Дорога колхозная и ведет к деревне Михновщина. Иными словами, председатель не виновен и не должен сидеть на скамье подсудимых.

В предъявленном суду ходатайстве защитников утверждается также, что обвинение Рахманько, Некрашевича, Виноградова и Артемкова "стало возможным не только в результате грубейших ошибок, допущенных ревизорами при проведении документальных ревизий по делу, но и из-за непонимания следователями... таких понятий, как материальный ущерб в уголовном праве, дебиторская задолженность, упущенная выгода и др. Таким образом, делают вывод адвокаты, по изложенным в ходатайстве эпизодам вообще отсутствуют общественно опасные последствия в виде материального ущерба. Уголовное дело в этой части обвинения Рахманько, Некрашевича, Виноградова и Артемкова, по их мнению, нужно было прекратить еще на стадии расследования.

В связи с многочисленными нарушениями требований Указа президента №673, которые привели на скамью подсудимых фактически невиновных людей, защита предлагает вызвать в суд и выяснить причины допущенных нарушений главного контролера-ревизора по Барановичскому КРУ Минфина РБ Е.В.Прудникову, главных контролеров-ревизоров этого же ведомства В.Н.Груздова и И.И.Лутовича.

В своем ходатайстве защитники делают вывод об ошибочном привлечении к уголовной ответственности сенатора Рахманько и просят суд отменить незаконный, с их точки зрения, домашний арест, который к тому же еще и продлевался на срок более шести месяцев, что противоречит УПК .

**Ирина ДЕНИСОВА.**

**P.S.** *Я далека от попытки предвосхищать решение суда. Но вот уже два месяца исправно посещая заседания суда, я все больше убеждаюсь,что не все так однозначно, как выглядит в обвинительном заключении. Каждый день люди приезжают из Барановичей, а эколог Воротницкий — из Припятского экологического заповедника. Полтора года до начала суда шло следствие, были проведены многочисленные проверки. Эти уже немолодые люди с подорванным здоровьем — не воры, не убийцы, не насильники... Высококлассные специалисты, которые, как говорят в народе, попали "под раздачу". Видимо, это "знак времени". Уже не советского, но еще и не демократического. Пока еще смутного...*

*Гэты здымак фотакарэспандэнт IREX/ProMedia зрабіў на Міншчыне. Як кажуць, дагаспадарыліся. А потым будуць крычаць: "Вады няма, цяпла няма...".*

## Чакайма новых маразоў

У найбліжэйшыя дні ў Беларусі чакаецца перапад тэмператур.

Як паведамілі БелаПАН у Белгідраметцэнтры, кароткачасовае паслабленне маразоў зменіцца іх узмацненнем.

11 і 12 студзеня ўначы чакаецца ад 20 да 25 градусаў марозу, пры праясненнях да мінус 27—30, днём 11 студзеня ад 16 да 21 градуса, 12-га — мінус 8—13.

Чакаецца, што на пачатку наступнага тыдня маразы зноў аслабнуць, часам пройдзе снег.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

**РЕПЛИКА**

## Гора родила мышь

Ура! Свершилось! Наконец-то страна с облегчением вздохнула. Вот-вот начнутся стихийные митинги в поддержку мудрой политики Национального банка. И навсегда отпечатается улыбка благодушия на лице главного банкира-самоучки Петра Прокоповича.

Да пусть простит меня читатель за такое ерничанье по поводу отмены однорублевой белорусской купюры, но, ей-богу, уж слишком много внимания удостоилась в начале года эта рутинная рациональная акция Нацбанка. Событие, заслуживающее одной строчки в колонке новостей, вдруг встало в ряд чуть ли не главных откровений начала нового года. Об этом наперебой написали практически все газеты, несколько раз вещало Белорусское телевидение, раздавались уверения, что от исчезновения купюры (стоимостью 1/20 американского цента!) никто ничего не потеряет... Ну чем не эпизод из жизни щедринского города Глупова?

Ну правда, а что можно потерять, если исчезло НИЧТО? Да вы и 5-, и 10-рублевую купюры уберите, — от этого все только приобретут. И в первую очередь, покупатели и продавцы. Потому что первые перестанут рыться в кошельках или карманах в ответ на просьбу последних поискать соответствующую ничего практически не значащую, затертую бумажку для облегчения расчета.

Другое дело, если бы взяли, да и отменили все эти тысячи. И перешли на нормальные, имеющие реальную стоимость рубли. Тогда бы не было еще одного повода думать о том, что живешь в стране отсутствующих новостей.

**Михаил БОТЯН.**

**РЕЗОНАНС**

## Не со всем можно согласиться, но...

*Главному редактору газеты "Народная воля" Середичу И.П.*

Уважаемый Иосиф Павлович!

Внимательно ознакомился с Вашей статьей "Кошт праўды" ("Народная воля" №3 от 9.01.2003 г.) и хотел бы поблагодарить за нее. Высказывания очень эмоциональны и явно идут от души. Не со всем можно согласиться. Однако критику действий оппозиции, в том числе критику возглавляемой мной Либерально-демократической партии и меня лично считаю вполне уместной.

Пресса всегда была и остается зеркалом нашего общества. Она острее всех чувствует все недостатки и часто правильно указывает пути их устранения. Поэтому мы всегда внимательно прислушиваемся к мнению представителей прессы и стараемся учесть все критические замечания. В подтверждение этого можете, если, конечно, посчитаете нужным, разместить в Вашей газете информацию, что Сергей Васильевич Гайдукевич положительно воспринял критику в свой адрес.

С уважением и наилучшими пожеланиями

**С.В.ГАЙДУКЕВИЧ,**
**экс-кандидат в президенты Республики Беларусь, председатель Либерально-демократической партии.**

**ПАРАЛЕЛІ**

## Не трылогіі брывастага генсека трэба было чытаць, а Аляксандра Галіча

***Лукашэнка:***
*"Я запущу предприятия",*
***Кебіч:***
*"Как?"*
***Лукашэнка:***
*"Запущу. Я знаю, как".*

**(З тэледэбатаў у прамым эфіры БТ перад другім турам выбараў першага прэзідэнта Беларусі — ліпень 1994 г.)**

Раз-пораз не дае спакою думка: чаму, чаму тады, у 1994 годзе мы, выбаршчыкі, не задумаліся вось над гэтым дыялогам кандыдатаў у прэзідэнты Лукашэнкі і Кебіча? Можа, з-за таго, што савецкая школа не прывучыла звяртаць увагу на тое, што гаворыць чалавек. На першым месцы была форма: прыгожа гаворыць — значыць, трэба верыць.

Разуменне філасофіі жыцця дасягаецца праз літаратурныя творы, і найперш тых аўтараў, якія не "прылізвалі" свае вершы і прозу пад густы і жаданні "власть имущих". Але дзе яны, тыя аўтары і тыя творы, у школьнай праграме? Не было ў мае школьныя "застойныя" гады, амаль няма і цяпер. Шкада...

А можа, калі б маё пакаленне замест трылогіі брывастага генсека прачытала б хаця некалькі вершаў Аляксандра Галіча, Паэта з вялікай літары і вымушанага эмігранта з СССР, не жылі б мы цяпер у савецкім адстойніку, дзе спыніўся час. Бо Галіч папярэджваў нас, заклікаў да разважлівасці і розуму. І хаця паэма Галіча, урыўкі з якой я прапаную чытачам "Народнай волі", напісана ў 1968—1970 гадах і размова ў ёй ідзе пра жахлівага крамлёўскага горца, яна па-ранейшаму актуальная, бо пані Гісторыя мае звычку паўтарацца. Але даволі разважанняў, слова — Паэту.

*...И все-таки я, рискуя прослыть*
*Шутом, дураком, паяцем,*
*И ночью и днем твержу об одном —*
*Не надо, люди, бояться!*
*Не бойтесь тюрьмы, не бойтесь сумы,*
*Не бойтесь мора и глада,*
*А бойтесь единственно только того,*
*Кто скажет: "Я знаю, как надо!"*
*Кто скажет: "Идите, люди, за мной,*
*Я вас научу, как надо!"*

*И, рассыпавшись мелким бесом*
*И поклявшись вам всем в любви,*
*Он пройдет по земле железом*
*И затопит ее в крови.*
*И наврет он такие враки,*
*И такой наплетет рассказ,*
*Что не раз тот рассказ в бараке*
*Вы помянете в горький час...*

*...Земля — зола, и вода — смола,*
*И некуда вроде податься...*
*Неисповедимы дороги зла,*
*Но не надо, люди, бояться!*
*Не бойтесь золы, не бойтесь хулы,*
*Не бойтесь пекла и ада,*
*А бойтесь единственно только того,*
*Кто скажет: "Я знаю, как надо!"*
*Кто скажет: "Всем, кто пойдет за мной,*
*Рай на земле — награда"...*

*...Гоните его! Не верьте ему!*
*Он врет! Он не знает — как надо!*

**Аляксандр ЛОБАН.**

*г.Гродна.*

# Інтэлігенты, яднайцеся!

*Прэс-рэліз пасяджэння аргкамітэта Усебеларускага сходу інтэлігенцыі «Незалежная Беларусь — свабоднае і заможнае грамадства»*

Вылучэнне дэлегатаў ад Мінска на Усебеларускі сход інтэлігенцыі "Незалежная Беларусь — свабоднае і заможнае грамадства" пройдзе 19-га студзеня ў 11.00 у сталічным Палацы мастацтва. Да 19 студзеня павінна быць таксама вызначана дакладная дата і месца правядзення сходу. Такое рашэнне прынялі 6-га студзеня ўдзельнікі рабочай групы аргкамітэта сходу. Яны таксама вызначылі тэмы асноўных дакладаў, што прагучаць на форуме, і абмеркавалі магчымыя кандыдатуры прамоўцаў і ўдзельнікаў сходу.

Мяркуецца, што праца сходу будзе падзелена на тры тэматычныя блокі: духоўна-культурны, сацыяльна-эканамічны і палітычны. Арганізатары форуму вызначылі шэраг тэм, якія будуць асвятляцца ў спецыяльных дакладах і абмяркоўвацца падчас дыскусій: "Роля інтэлігенцыі ў сучасным беларускім грамадстве", "Шляхі выхаду Беларусі з эканамічнага крызісу", "Інтэлігенцыя і ўлада", "Праблемы раз'яднанасці беларускай інтэлігенцыі", "Лінгвацыд беларускай дзяржаўнай мовы", "Інфармацыйная прастора Беларусі", "Глабалізацыя і нацыянальнае адраджэнне", "Экалогія і дэмаграфія", "Праблемы адукацыі". Мяркуецца, што па кожнай з гэтых тэм будуць выступаць па некалькі садакладчыкаў.

Арганізатары сходу запрашаюць да актыўнага супрацоўніцтва спецыялістаў па эканоміцы, экалогіі, медыцыне, "тэхнічную інтэлігенцыю". Усіх, хто мае жаданне выступіць альбо хоча прапанаваць кандыдатуру прамоўцы па адной са згаданых тэм, арганізатары сходу запрашаюць звяртацца на адрас: **Мінск, 220005 вул. Румянцава, 13, тэл./факс: (017) 284-85-11, E-mail: tbm@tbm.lingvo.minsk.by (з пазнакай "Сход").**

СКАНДАЛ

# Болгарский «централ» для белорусов?

***Некоторые белорусы, легально выехавшие в минувшем году на заработки в Болгарию, стали практически рабами Балтийской строительной компании.***

***Во всяком случае так утверждает Вячеслав Валицкий — один из тех, кому удалось вернуться на родину. "В Болгарии остались мои друзья. Хочу помочь им оттуда выбраться", — говорит он.***

"Я инвалид II группы, у меня семья, двое внуков, — рассказывает Вячеслав. — Материальное положение, прямо скажем, неважное. На хорошо оплачиваемую работу на периферии устроиться практически невозможно. А как выжить на 80 тысяч пенсии? Дома у меня не кролики: родных одной капустой не накормишь... Знакомые рассказали, что можно поехать на заработки в Болгарию. Зарплата — два доллара в час. Все было оформлено вроде официально, со мной даже подписали трудовое соглашение. Правда, никаких бумаг на руки почему-то не отдали. Проконсультировавшись с врачами, я решил ехать.

В Болгарии мы реставрировали храм Христа-Спасителя, возведенный в честь победы русских солдат на Шипке. Вначале пробыли там две недели — нам открыли обычную туристическую визу, а нужна была рабочая. Приехали домой, с нами рассчитались так, как и обещали. На радостях я даже посоветовал устроиться на эту работу своим друзьям. Но во второй приезд неожиданно начались проблемы...

Нас принимал на работу **Николай Васильев** — представитель Балтийской строительной компании в Беларуси. Человек, которого он назначил нашим бригадиром, весьма специфически относился к людям. Например, кто-то вкалывал, как папа Карло, а кто-то у костра сидел, сигаретку покуривал. И те, кто ленился, получали по два доллара в час. Другие — меньше. Когда у бригадира спрашивали, почему так несправедливо получается, он отвечал: "Как захочу, так и будет".

Естественно, мы возмущались: "Мол, не ты нанимал нас и контракт с нами подписывал!". Рядом работали москвичи. У них таких проблем с бригадиром не возникало. А у нас доходило до смешного: за одиннадцать часов беспрерывной работы нам не разрешали даже сигарету выкурить! Только устроим перекур — сразу подходит надсмотрщик и говорит: "Ты попал". Но ведь даже в тюрьме курить не запрещают!

Однажды я попросил аванс. Выяснилось, что едва ли не половину моего заработка сняли. Объяснили просто: если бы не огрызался с начальством, получал бы два доллара в час, а так — только один. И пригрозили: не нравится — будешь за 50 центов пахать.

Сейчас как вспомню все это, — дрожь по телу... Они устроили нам самый настоящий фашистский режим. Некоторые парни покорно молчали, потому как думали, что если не будут качать права, то им точно заплатят обещанную сумму. Хотя большинство ребят было на моей стороне. Мы, когда на работу шли, иногда клали руки за спину и пели по аналогии с известной песней: *"Васильевский централ, этапом с Минска шел..."*. К нам сразу подскакивали и тихо предупреждали: "Зароем".

Обстановка с каждым днем накалялась. В конце концов я решил бежать... Соврал, что у меня отец при смерти. Вначале, несмотря на вескую причину, меня все равно не хотели отпускать: мол, у тебя контракт до 20 февраля. Потом согласились. Перед отъездом я попросил расчет. Мне должны были выдать 430 честно заработанных долларов. Однако дали только 70 (к сведению: обратный билет стоит 65 долларов). И предупредили: "Если что-то не устраивает, вообще отсюда не уедешь..."

Мне помогли вырваться оттуда живым болгары, с которыми мы вместе работали. Они нашли машину, собрали немного денег на дорогу. Перед отъездом некоторые просили: "Помоги и нам уехать отсюда". Я пообещал... Там тридцать четыре белоруса, хотя не все стремятся вернуться на родину. Одним удалось приспособиться к обстоятельствам, другие — родственники или близкие люди нашего нанимателя, третьи пока просто молчат...

Приехав в Минск, записался на прием к Временному Поверенному в делах Болгарии в Беларуси. Во время разговора с ним выяснилось, что визы в Болгарию нам посольство открыло бесплатно. А с нас эти деньги высчитали...

В посольстве мне дали телефон нашего нанимателя — Николая Васильева. Перед Новым годом я позвонил ему и попросил, чтобы со мной рассчитались. Он обозвал меня "уродом" и бросил трубку. Через некоторое время я перезвонил снова. На этот раз он сообщил, что мне отдадут деньги...

### Комментарий

**Николай ВАСИЛЬЕВ, представитель Балтийской строительной компании:**

### «К нам очередь стоит»

— У меня есть документы, которые свидетельствуют, что Вячеслав Валицкий несколько раз находился здесь в нетрезвом состоянии, скандалил с людьми. У нас довольно жесткие условия приема на работу: человек, который "проштрафился", самостоятельно оплачивает все затраты. По-моему, даже в советские времена пьяниц гнали с работы...

Насколько я знаю, за ноябрь Валицкий деньги уже получил. Остаток суммы ему выплатят до 15 января. Мы с ним договаривались на полтора доллара в час: где это видано, чтобы подсобник получал столько же, сколько высококвалифицированный специалист? Он, кстати, из-за этого и скандалить начал.

Что касается условий работы в Болгарии, то, на мой взгляд, они довольно неплохие. В комнате площадью примерно 18 метров живут два—три человека. Трехразовое питание, спецодежда, проезд туда-обратно — все за счет фирмы. Естественно, это все для тех, кто нормально работает. Кто отлынивает от работы — все расходы оплачивает сам.

Если к нам стоит очередь, значит, не так уж здесь плохо.

**Емел САМАРДЖИЕВ, Временный Поверенный в делах Болгарии в Беларуси:**

### «Официальной информации у меня нет»

— Ко мне приходил человек, который долго рассказывал о том, как белорусы работают в Болгарии. Официальной информацией, к сожалению, я не располагаю. Я посоветовал Валицкому обратиться в Министерство иностранных дел. Он сказал, что туда не пойдет, а расскажет обо всем журналистам. Посольство Болгарии не имеет к этой истории никакого отношения. Мы только выдали этим людям визу...



*Вячеслав Валицкий (в центре) на Шипке; он еще не знает, что его ждет в Болгарии...*

### Компетентно

В Департаменте по миграции Министерства труда и социальной защиты Республики Беларусь заявили, что Балтийская строительная компания не имеет законных оснований нанимать белорусов на работу, потому как у нее нет соответствующей лицензии Минтруда Беларуси. *"Значит, эта фирма действовала нелегально"*, — делают вывод сотрудники министерства.

"Фирмы, которые занимаются трудоустройством белорусов за рубежом, обязательно должны иметь нашу лицензию на трудоустройство, — говорит **начальник Департамента по миграции Министерства труда и социальной защиты Республики Беларусь Леон Яхновец.** — Соглашаясь сотрудничать с такой фирмой, человек действует на свой страх и риск. И в этом случае он может попасть даже в рабство. А при выдаче лицензии наши сотрудники смотрят, есть ли соответствующий договор между субъектом хозяйствования, который занимается трудоустройством, и иностранным субъектом, принимающим граждан на работу. В договоре обязательно должны быть оговорены порядок и условия работы, выплаты зарплаты, социальная защита и некоторые другие моменты.

Мы всегда говорим: прежде чем куда-либо трудоустраиваться, попросите, чтобы вам показали договор, контракт.

К сожалению, иногда бывают моменты, когда фирмы, имеющие лицензию Минтруда, нарушают свой договор. Но в таких ситуациях материалы тут же передаются в правоохранительные органы".

**Для справки:** ***в 2001 году из Беларуси на работу за рубеж на основе подписанных договоров и контрактов выехали 4138 человек.***

***За девять месяцев минувшего года уехали 3564 человека.***

**Марина КОКТЫШ.**

ЭКАНАМІЧНЫ БАРОМЕТР

## Прэзентацыя нашага тралейбуса ў Бялградзе

Яна прайшла гэтымі днямі. Як паведаміў першы намеснік генеральнага дырэктара ВА "Белкамунмаш" Фёдар Гукайла, была прадстаўлена мадэль тралейбуса "20101". Яна з'яўляецца аптымальнай для бялградскага рынку. Раней ВА "Белкамунмаш" выйграў тэндэр, абвешчаны ўладамі гэтага горада, і паставіў ужо у Бялград 10 тралейбусаў такой мадэлі.

Патэнцыяльная ёмістасць мясцовага рынку дастаткова вялікая. У выпадку паспяховага правядзення перамоў "Белкамунмаш" можа паставіць у Бялград ад 25 да 50 адзінак сваёй прадукцыі. Акрамя таго, падчас перамоў плануецца абмеркаваць магчымасць стварэння сумеснага прадпрыемства па рамонце трамваяў.

Паводле слоў Ф.Гукайлы, тралейбусы вытворчасці ВА "Белкамунмаш" пастаўляліся не толькі ў Югаславію, але і ў Манголію, Латвію, а таксама прыкладна ў 40 гарадоў Расіі. У Беларусі яны выкарыстоўваюцца ў якасці гарадскога транспарту ў Мінску, Гомелі, Віцебску, Брэсце, Бабруйску, Магілёве.

Цяпер ВА "Белкамунмаш" праводзіць выпрабаванні новай мадэлі падвойнага тралейбуса. Паводле слоў Ф.Гукайлы, у выпадку паспяховага іх завяршэння прадпрыемства будзе гатова прыступіць да вытворчасці новых тралейбусаў.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Крэдыт ад кувейцкага фонду

Кувейцкі фонд арабскага эканамічнага развіцця выдаткуе сёлета крэдыт светлагорскаму ВА "Хімвалакно" на мадэрнізацыю вытворчасці ў памеры 16,5 мільёна долараў ЗША.

Мадэрнізацыя "Хімвалакна" будзе ажыццяўляцца нямецкімі спецыялістамі ў рамках падпісанага ў снежні кантракта з адной з машынабудаўнічых фірмаў Германіі па вытворчасці абсталявання. Вынікам праекта па мадэрнізацыі прадпрыемства стане выпуск зусім новай поліэфірнай тэкстыльнай ніці і віскознага корду тыпу "супер", з якімі прадпрыемства зможа выйсці на сусветны рынак.

Вытворчаму аб'яднанню "Хімвалакно" належыць 60 працэнтаў ад агульнага аб'ёму прамысловай прадукцыі Светлагорска. Аднак, сёння на складах назапашаны месячны аб'ём гатовай прадукцыі, не выкананы прагнозны паказчык выпуску тавараў народнага спажывання. Тым не менш генеральны дырэктар аб'яднання Мікалай Маркаў у інтэрв'ю шматтыражнай газеце "Хімікі" вялікія надзеі звязвае з рэканструкцыяй. Паводле яго слоў, прыярытэтнымі накірункамі ў працы прадпрыемства ў новым годзе стане мадэрнізацыя шэрагу вытворчасці і развіццё знешнеэканамічных сувязей.

**Людміла ВАЛЕЎСКАЯ.**

## «Мотавела» пашырае экспартныя рынкі збыту

Цяпер "Мотавела" вядзе перамовы аб пастаўках сваіх матацыклаў мадэлі 3114 у Іспанію, Францыю, Мексіку, Сірыю, Анголу, Замбію і Бенін. Пастаўлены ўжо ўзоры матацыклаў і мотацялежак у Вялікабрытанію і ЗША. Паводле слоў спецыяліста прадпрыемства М.Бойкі, пастаяннымі спажыўцамі прадукцыі ААТ "Мотавела" з'яўляюцца В'етнам, Афганістан і Нігерыя.

Ён таксама зазначыў, што для паспяховага прасоўвання мінскіх матацыклаў на новыя рынкі неабходна іх мадэрнізацыя. У прыватнасці, плануецца аснасціць мадэль 3114 чатырохтактным рухавіком, бо двухтактны рухавік, што выкарыстоўваўся раней, забаронены для выкарыстання ў многіх заходніх краінах. Для першых партый мадэрнізаваных матацыклаў рухавікі будуць купляцца ў Кітаі, пакуль ААТ "Мотавела" не пачне іх самастойную вытворчасць. Мяркуецца, што першая партыя з 320 матацыклаў будзе гатова да канца студзеня.

Прадпрыемства "Мотавела" створана ў 1957 годзе. Спецыялізуецца на выпуску матацыклаў і веласіпедаў. Колькасць рабочых на прадпрыемстве складае больш за 4,5 тысячы чалавек.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## «Улоў мытнікаў»

За тыдзень беларускімі мытнікамі выяўлены 234 факты парушэння заканадаўства, па якіх канфіскавана тавараў і каштоўнасцей на суму звыш 1 мільярда 700 мільёнаў рублёў.

Асноўнымі аб'ектамі адміністрацыйных правапарушэнняў былі аўтатранспартныя сродкі, цыгарэты, алкагольная прадукцыя, валюта, мыйныя сродкі, цацкі, мэбля для магазінаў, яблыкі, канцтавары, спартыўнае абсталяванне, адзенне, абутак і бытавая тэхніка.

Мытнікамі канфіскавана таксама звыш за 45 тысяч долараў ЗША, амаль 14 тысяч еўра, 25 тысяч расійскіх рублёў, а таксама літоўскія літы, швейцарскія франкі і іншая валюта на агульную суму больш за 120 млн. беларускіх рублёў.

Акрамя таго, за тыдзень мытнікамі канфіскавана звыш 40 тыс. штук цыгарэт на суму 1 млн. 391 тыс. рублёў, каля 300 літраў алкагольнай прадукцыі на суму 580 тыс. рублёў, 16 адзінак транспартных сродкаў на суму 70 млн. рублёў, 14 адзінак залатых вырабаў на агульную суму каля 1 млн. рублёў, а таксама 148 кілаграмаў каляровых металаў.

**Аляксей АРЭШКА.**

# Мирный отвечает за ВИЧ

*Максим Мирный назначен национальным послом доброй воли ЮНЭЙДС по борьбе с ВИЧ/СПИДом в Беларуси*



В декабре 2002 года Объединенной программой ООН по ВИЧ/СПИДу (ЮНЭЙДС) и Тематической группой ООН по ВИЧ/СПИДу в Республике Беларусь Максим Мирный был назначен национальным послом доброй воли по борьбе с ВИЧ/СПИДом в Беларуси. Основная цель посла доброй воли ЮНЭЙДС в Беларуси — предоставление молодежи возможностей и альтернатив рискованному поведению, которое ведет к распространению ВИЧ/СПИДа. Эта цель будет достигнута путем использования имиджа и статуса знаковой фигуры для работы с такой уязвимой целевой группой, как молодежь в возрасте 15—30 лет. Эта деятельность будет результативной, так как практика показывает, что голос знаменитости может оказывать значительное влияние на определенную аудиторию и зачастую оказывается более сильным по своему воздействию, чем голос представителя правительства или какой-либо организации.

Максим Мирный родился 6 июля 1977 года. Свою спортивную карьеру он начал в возрасте 6 лет, когда отец послал его в Бруклин, где он и начал играть в теннис. С 1992 года Максим тренировался в теннисной академии Ника Боллитьерри. Максим Мирный — член белорусской команды кубка Дэвиса с 1994 года и достиг многих спортивных результатов. Максим Мирный владеет тремя языками (русским, английским и французским), а также изучает испанский. В ноябре 2001 года он был удостоен высшей государственной награды за свои достижения в области спорта.

Необходимо также отметить и тот факт, что посол доброй воли является белорусом и будет представлять белорусские национальные интересы в борьбе с эпидемией ВИЧ/СПИДа в качестве национального посла ЮНЭЙДС по ВИЧ/СПИДу. Деятельность знаменитости позволит наладить более тесные контакты с наиболее уязвимой группой общества — молодежью, и установить партнерские отношения с представителями властных структур. Роль национального посла доброй воли ЮНЭЙДС является очень важной для работы с молодежью и пропаганды ответственности относительно здорового образа жизни.

Посол доброй воли ЮНЭЙДС по борьбе с ВИЧ/СПИДом будет участвовать и вносить посильный вклад в ряд мероприятий по профилактике ВИЧ/СПИДа. Он также будет находиться в распоряжении Ко-спонсоров ЮНЭЙДС в случае, если они будут организовывать такого рода мероприятия. Использование титула знаменитости важно и необходимо по ряду причин. Во-первых, титул помогает людям понять функции посла доброй воли. А во-вторых, это помогает самой знаменитости понять значимость своей роли и статуса в рамках деятельности.

**Пресс-релиз ЮНЭЙДС.**
**Фото IREX/ProMedia.**

## Даведка пра Мінск — праз Інтэрнет

У красавіку 2003 года ў сетцы Інтэрнет у адкрытым доступе пачне дзейнічаць даведачна-інфармацыйная служба "Мінскгарінфасервіс", якая наладзіць узаемадзеянне жыхароў сталіцы з дзяржаўнымі арганізацыямі рознага ўзроўню.

Як паведаміў БелаПАН выканаўчы дырэктар аб'яднання Сяргей Енін, на сайце будзе размешчана інфармацыя, неабходнасць у якой узнікае ў такіх жыццёва важных сітуацыях, як нараджэнне дзіцяці, смерць блізкага чалавека, купля кватэры, праходжанне воінскай службы, паступленне на вучобу, зварот у падатковыя органы, жыллёва-камунальныя службы і іншыя.

У 15 раздзелах даведачнай сістэмы будзе змешчана інфармацыя пра парадак працы і адрасы ўстаноў; імёны і кантактныя тэлефоны службовых асоб; узоры дакументаў, якія неабходна мець пры звароце, і шмат іншага, "з тым, каб чалавек мог хутка і якасна атрымаць усю неабходную яму інфармацыю".

**Лавінія АРЭШКА.**

ЛИЧНОЕ МНЕНИЕ

# ...Не смогла я понять «белорусского Шекспира»

Скажите, вы любите театр? Я — очень. Но если на сцене почти два часа идет диалог полулежащих актеров или монолог Прокулы про Дракулу или Понтия Пилата (в белорусском варианте — Ферапонтия Сервелата) про Якова-Иакова, Калигулу, Цезаря, галлов, иудеев, стада овец с пастухом, коров с телятами и иже с ними, то у меня возникает желание быть поближе все-таки к нашей белорусской *глебе.*

Итак, гений от белорусской драматургии Андрей Курейчик. Пьеса "Понтий Пилат" в постановке Республиканского театра белорусской драматургии.

Замечательные исполнители, прекрасная режиссура. Но что же здесь играть, граждане? Так можно и телефонную книгу поставить: читай себе — Зайцев, Гимпель, Кац, Кацнельсон, Кацнельбоген, Фридман, Фишман, Шустер, Шпак, Шпаковский, Янушевский. Что ни имя, то сплошная история...

В пьесе А.Курейчика, говорят, есть большой философский смысл. Наверное, есть. Несколько раз актеры вскрикивали: *"Сінадрыён! Сінадрыён!"*. В древней истории это, наверное, что-то вроде нашего ОМОНа. Короче, пора уносить ноги...

Может, я не смогла понять нашего "белорусского Уильяма Шекспира" — Андрея Курейчика. Может, слабовато подготовлена по части Прокулы с Калигулой... Простите, но я не поняла, для чего вообще написана эта пьеса. И для кого. Над чем мы должны задуматься? Над Понтием Пилатом, который хотел (по пьесе А.Курейчика) спасти Иисуса из Назарета, но сам народ иудейский предал своего мессию, дав свободу Варавве, а не ему? Как там у них было на самом деле — дело библейское. А Библию надо читать либо дома, либо в церкви, но не со сцены. Библия — дело святое. И судить всех нас, грешных, галлов и иудеев, римлян и славян, Понтиев и Непонтиев может только Бог.

Безусый юноша готов кого-то оправдать или осудить, или заставить нас задуматься... О чем?

Весь спектакль (почти полтора часа) я думала о мирском, о нашенском, белорусском. Не успела заплатить за электроэнергию по новым ценам. Ремонт дома принял затяжное, почти библейское течение. В транспорте опять намнут бока... Мороз крепчает... Хотя бы не лопнули трубы, как в прошлом году...

А со сцены снова слова про Калигулу, Цезаря, Антония, галлов, мессию, иудеев. Кажется, совесть окончательно заела Понтия (по Курейчику), и он вскрыл себе вены. Слабоват-с... Ничего не поделаешь. А вот жил бы он в моей хрущебе, не додумался бы до такого! Еще бы и счастливым себя считал! Не дожил Понтий до светлых дней, а жаль: то-то было бы А.Курейчику материала для написания драм!

Увы, не пишут драматурги про наше житье-бытье... Конечно, я не Прокула и не гетера с гитарой или арфой, но на пару пьес материала хватило бы с лихвой. Однако кому он нужен? Никому! И народ Беларуси, похоже, никому не нужен, кроме тебя, Господи!..

**С уважением**

**Татьяна КАРЕЛИНА, Минск.**

# «Мяне клічуць у Амерыку»

*Асуджаны без тэрміну даўнасці за веру ў Бога*

Пропаведзь Евангелля для Якава Васільевіча заўсёды была і застаецца значнай часткай яго жыцця. Вера прыносіць у жыццё радасць, надзею, напаўняе яго новым сэнсам. Але для Якава Пацукевіча яго рэлігійныя перакананні сталі прычынай некалькіх гадоў катаванняў у турме, ганьбы і здзекаў, хваробы, якая дагэтуль дае аб сабе знаць.

У 1974 годзе савецкія ўлады прысудзілі яму пяць гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. Вось абвінавачванне (вытрымка з вызначэння судовай калегіі па крымінальных справах Брэсцкага абласнога суда 6 жніўня 1974 г.): "Пацукевіч Я. В., прызнаны віноўным у арганізацыі і кіраўніцтве незарэгістраванай рэлігійнай секты Адвентыстаў сёмага дня, неаднаразова праводзіў зборы веруючых у Пінску. ... Пацукевіч стварыў спецыяльны аркестр рэлігійнага накірунку, куды прыцягнуў моладзь". На падставе гэтага суд пастанавіў — 5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Якаў Васільевіч да падрабязнасцяў памятае, як улады арганізавалі паказальны працэс у гарадскім Доме культуры Пінска, як застагнала ад нечаканасці зала, калі суддзя абвясціў прысуд, слёзы жонкі і дзяцей...

З-за былой судзімасці пенсіянер Якаў Пацукевіч атрымлівае толькі палову сваёй пенсіі, каля 50 тысяч рублёў. З мэтай рэабілітацыі і аднаўлення справядлівасці Я. Пацукевіч звярнуўся ў Вярхоўны суд. Аднак адказ, які пенсіянер атрымаў, мала чым адрозніваецца ад рашэння, прынятага ў 1974 г. Паводле Вярхоўнага суда, з часоў панавання камуністычнай ідэалогіі нічога не змянілася: "Спасылка на тое, што ў дадзены час змяніліся абставіны, і грамадзянам не забараняецца верыць у Бога, не з'яўляецца падставай для вашай рэабілітацыі," — піша першы намеснік старшыні Вярхоўнага суда П.П.Міклашэвіч.

Звяртае на сябе ўвагу выкарыстанне Вярхоўным судом слова "секта" і "сектанты" ў адносінах да веруючых царквы Адвентыстаў сёмага дня, паважанай ва ўсім свеце супольнасці веруючых, і, дарэчы, афіцыйна зарэгістраванай у Рэспубліцы Беларусь. У гэтым і шмат у чым астатнім сучасныя афіцыйныя дакументы амаль не адрозніваюцца ад пастаноў і рашэнняў, прынятых па гэтай справе ў 1974 г.

Слова "секта" ўвогуле зараз вельмі актыўна ўжываецца ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі і становіцца ганебным штампам для шматлікіх рэлігійных груп і цэркваў. Прычым выкарыстанне гэтага слова ў дачыненні да існуючых рэлігійных канфесій і дэнамінацый абсалютна незаконнае і неправамернае, паколькі адносна рэлігійнай абшчыны такога паняцця няма ўвогуле. Аднак гэта не замінае сёння дзяржаўным служачым і дзяржаўным СМІ ўжываць гэта слова, ускосна маючы на ўвазе ўсіх неправаслаўных вернікаў.

Несправядлівасць не зламала духу веруючага. За гады зняволення ён перажыў холад і голад, сардэчныя прыступы, цяжка фізічна працаваў амаль без выхадных, захварэў на сухоты. Пасля адказу з Вярхоўнага суда ён звярнуўся ў Палату прадстаўнікоў да дэпутата І.Пашкевіча. У сваім лісце ён напісаў, што дагэтуль нясе пячаць прыніжэння і ганьбы, а таксама матэрыяльныя страты. Пяць гадоў зняволення, адрэзаныя ад агульнага стажу працы, а таксама былая судзімасць не даюць годна існаваць на сваёй зямлі. Яшчэ адна цікавая акалічнасць: "Дасылаючы сваю заяву ў Вярхоўны суд, я быў упэўнены, што рашэнне будзе на маю карысць. Аднак у Вярхоўным судзе маю справу дакладваў суддзя Пташнік, які мяне судзіў тады ў Пінскім судзе. Як жа можна прызнаць памылковым сваё ранейшае рашэнне?"- піша ў сваім лісце былы вязнік.

Уся сям'я Пацукевічаў сёння належыць да царквы Адвентыстаў сёмага дня. Якаў Пацукевіч, нягледзячы на сталы ўзрост, актыўна займаецца дабрачыннай дзейнасцю. У Пінску арганізаваў сталоўку, дзе харчуецца каля 150 чалавек у дзень, перадае гуманітарную дапамогу ў мясцовы Дом інвалідаў, і такім жа ўстановам у Баранавічах, Іванаве і Драгічыне. Поўны аптымізму і жыццёвай энергіі, якой, як сам кажа, яго блаславўляе Гасподзь.

"Трэба сказаць, што мне неаднаразова як рэпрэсаванаму прапанавалі выехаць у Амерыку, — піша пенсіянер у сваім лісце. — Там забяспечаць усім: кватэрай, годнай пенсіяй, медыцынай. І я ўпэўнены, што ўсё гэта меў бы. Але мая родная Беларусь, мой народ і мая мізэрная пенсія ў 51 тысячу для мяне даражэй за ўсё, што магло б быць. Для мяне жыццё — гэта аддананасць маёй краіне".

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ.**

АСЦЯРОЖНА: АБДУРВАЮЦЬ!

# Тэлевізійная дэбіл-віктарына

**На пачатку мінулага года ў артыкуле "Дурылка навагодняя" я пісаў пра тэлевізійны конкурс, у якім разыгрывалася новая кватэра ў Мінску. Тэлевіктарыну тады рэкламавалі спявак Анатоль Ярмоленка з дачкой Алесяй. Пытанні былі дзіцячыя, і адказвалі на іх пераважна дзеці. Кошт званка быў надзвычай дарагім, ад чаго, вядома, фінансава цярпелі бацькі "ўсязнаек".**

**У гэтым годзе рэкламная служба Беларускага тэлебачання пайшла яшчэ далей і арганізавала "дурылку-2". Кошт званка на новую віктарыну зноў касмічны — 2200 руб за хвіліну, значна "змяльчэлі" прызы, сярод якіх — усяго толькі пыласосы, тэлевізары ды плэеры. А пытанні сталі зусім прымітыўнымі.**

"Якое званне носіць Мінск — горад-герой ці горад-патрыёт?", "Хто згуляў галоўную ролю ў фільме "Каўказская нявольніца" — Наталля Варлей ці Людміла Гурчанка?", "Якое возера знаходзіцца ў Мінску — Камсамольскае ці Нарач?", "Колькі абласцей у Беларусі — 5 ці 6?", "Колькі дзён у высакосным годзе — 365 ці 366? Хто не зможа адказаць на гэтыя "цяжкія" пытанні?

Кожны, як кажуць, мае права быць аблапошаным, асабліва ў нашым "дэмакратычным" грамадстве. Але да нас зноў пачалі даходзіць сумныя гісторыі пра канкрэтных людзей і канкрэтныя сем'і, звязаныя з гэтай "дурылкай-2". У адным выпадку пенсіянерка вымушана аддаць усю пенсію за тэлефонныя гулянкі ўнука, у другім — сям'я засталася амаль без сродкаў для існавання толькі з той прычыны, што малодшы "двоечнік" знайшоў нарэшце пытанні, на якія ён з лёгкасцю можа адказаць.

Відавочна, што арганізатары дэбіл-віктарыны хочуць сапраўднай масавасці званкоў, але ўскосна (я лічу, і наўмысна) дамагаюцца і іншай мэты: тэлефануюць, як правіла, на тэлебачанне з мэтай адказаць на пытанні віктарыны людзі, якія НЕ НЯСУЦЬ ФІНАНСАВАЙ АДКАЗНАСЦІ за званок, — дзеці, хворыя, няўдачнікі, беспрацоўныя...

Ведаю, што з падобнымі "прымітыўкамі" на тэлебачанні мелі справу і ў іншых краінах, але потым тых ці іншых арганізатараў прыцягнулі да суда грамадскія арганізацыі — і разнастайныя "дурылкі" пацiху зніклі з блакітных экранаў.

У нас звяртацца да "самага справядлівага ў свеце суда" — марная справа. Звярнуся ўсё ж да тых, хто кіруе тэлебачаннем: знайдзіце ў сабе сілы адмовіцца, у рэшце рэшт, ад сумніўнай магчымасці зарабляць лёгкія грошы. Хопіць абдурваць тэлегледачоў!

Сорамна за тэлебачанне, якое так і засталося правінцыяльным, але, карыстаючыся слабасцю судовай сістэмы, нахабна і бессаромна залазіць нам у кішэню.

Спыніцеся!

**Алесь СІЛІЧ.**

